


# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (24)
ТРАВЕНЬ 2015 ГОДА


ПЕРСПЕКТЫВА

## У БЕЛАРУСКІХ РАЁНАЎ НЯМА БУДУЧЫНІ?

**Сёння рэгіёны вызначаюцца з планамі на будучыню - ім даручана скласці свае стратэгіі ўстойлівага развіцця. Але можа апынуцца так, што ў цудоўнай будучыні беларускіх гарадкоў і вёсак будзе няма каму жыць - уся Беларусь проста пераедзе ў Мінск.**

Навукова-даследчы інстытут Мінэканомікі, які складаў Нацыянальную стратэгію ўстойлівага развіцця да 2030 года для ўсёй краіны, будзе дапамагаць рэгіёнам распрацоўваць аналагічныя лакальныя стратэгіі. На думку інстытута, адным з найважнейшых фактараў, які нашым раёнам і абласцям варта ўлічваць, - гэта дэмаграфічныя перспектывы, піша "Штодзённік".

НДЭІ вывучыў дэмаграфічную сітуацыю ў рэгіёнах і склаў прагноз на перыяд да 2030 года.

**Дэмаграфічны рай скончыцца праз дзесяць гадоў**

У Беларусі з дэмаграфіяй усё складана. За мінулыя 14 гадоў краіна страціла 5% свайго насельніцтва, гэта 476.000 чалавек. І нескладана палічыць, калі б беларусы зусім вымерлі, калі б такія тэмпы захаваліся. Балазе ў апошнія гады намеціліся пазітыўныя зрухі. Упершыню за 20 гадоў, пачынаючы з 2013 года, насельніцтва краіны стала расці.

Паводле прагнозу НДЭІ рост насельніцтва, хоць і невялікі, будзе назірацца да 2022 года, пасля чаго дынаміка зноў пойдзе ўніз. За гэтыя «тлустыя» некалькі гадоў колькасць беларусаў стабілізуецца на ўзроўні 9,5 млн чалавек. Насельніцтва будзе прырастаць у асноўным за кошт міграцыі. Менавіта яна збольшага кампенсуе натуральнае змяншэнне.

Нараджальнасць у Беларусі таксама расце - цяпер яна вышэй сярэднееўрапейскага ўзроўню. Аднак ужо гадоў праз 15 гэты паказчык пойдзе ўніз і зраўняецца з еўрапейскім. Адпаведна, колькасць дзяцей будзе павялічвацца да 2030 года. Дзеці будуць складаць 17,5% ад усяго насельніцтва.

А вось беларусаў, здольных працаваць, стане менш. Калі цяпер іх 58% у структуры ўсяго насельніцтва, то ў 2030 будзе толькі 52%. За гэтыя 15 гадоў Беларусь страціць 600 тысяч працаздольных грамадзян.

**Рэгіёны пачнуць выміраць**

Станоўчая дэмаграфічная статыстыка, якую мы ўбачым бліжэйшыя 10-15 гадоў, - гэта заслуга горада Мінска. Каля 47% прыросту насельніцтва краіны прыйдзецца на сталіцу.

Усе без выключэння рэгіёны ў доўгатэрміновай перспектыве чакае скарачэнне колькасці насельніцтва. Больш за ўсіх пацерпяць Мінская і Віцебская вобласці. У гэтых рэгіёнах маладога насельніцтва значна менш, чым старэйшага, тут прагназуецца высокі ўзровень смяротнасці. Адносная дэмаграфічная стабільнасць, акрамя Мінску, назіраецца ў Брэсцкай вобласці. Тут шмат моладзі, смяротнасць будзе невысокай, нараджальнасць працягне расці.

**У сяла няма будучыні?**

Самая жаласная будучыня чакае, вядома, сельскую мясцовасць. Паводле прагнозу НДЭІ, да 2030 года сяло страціць пятую частку свайго насельніцтва. Больш за ўсё апусцеюць вёскі на Віцебшчыне, Гомельшчыне і Гарадзеншчыне. Найменшая урбанізацыя чакае Брэсцкую і Мінскую вобласці. Самая пазітыўная тэндэнцыя назіраецца ў вёсках вакол Мінска.

На вёсцы будзе шмат старых, а здольных да працы грамадзян застанецца вельмі мала. «Да 2030 года сельская мясцовасць у Беларусі пяройдзе ў катэгорыю працанедастатковых», - канстатавала Людміла Баравік.

Паводле яе слоў, каб гаварыць аб устойлівасці развіцця сельскага раёна, колькасць насельніцтва ў ім павінна быць не менш за 20 тысяч чалавек. У той час як у нашай краіне ёсць 50 гарадоў, у якіх жыве менш за 3 тысяч чалавек. Атрымліваецца, у многіх беларускіх раёнаў і мястэчкаў наогул няма будучыні.

**m.nv-online.info/by/mobile/economics/102945**

РЭХА ВАЙНЫ

## НАПОМИНАНИЕ О ПРОШЕДШЕЙ ВОЙНЕ

**С каждым годом отдаляется последняя война, которая прокатилась по белорусской земле, но страшные напоминания о лихих годах каждый день дают о себе знать.**

Вот и на этот раз смертоносные «гостинцы» с прошедшей войны обнаружены недалеко от деревни Липовцы Витебского района. В лесу около деревни найдены 42 артиллерийских снаряда и 16 гранат Второй Мировой войны. Все страшные напоминания уничтожены группой разминирования воинской части 5524.

С приходом тёплых дней всё больше работы у военнослужащих этого воинского подразделения. 10 дней тому вблизи деревни Редьки Дубровенского района на поле при производстве земляных работ обнаружены 10 минометных мин, 7 ручных гранат, 10 артиллерийских снарядов и взрыватель к ним. 6 мая около деревни Верхнее Глубокского района на поле при производстве сельскохозяйственных работ обнаружены 17 артиллерийских снарядов времен Великой Отечественной войны. В этот же день вблизи деревни Бондари Витебского района на поле при производстве сельскохозяйственных работ обнаружены 12 минометных мин, 12 артиллерийских снарядов, 42 взрывателя, 13 гранат и 19 запалов к ним. Все находки обезврежены.

Как показывает статистика, каждый год в Витебской области обнаруживается и обезвреживается более 4 тысяч боеприпасов времён последней войны. И с каждым годом происходит небольшое увеличение разминирований, которое военные связывают с ростом сознательности граждан, которые, увидев предметы, похожие на снаряды, не проходят мимо, а призывают на помощь специалистов.

**К.Адамов**

НА ДАРОГАХ

## ВЫРАСЛА КОЛЬКАСЦЬ ДТЗ

**З пачатку года на дарогах Віцебскага раёна адбылося 10 ДТЗ, у якіх загінулі шэсць чалавек, двое з якіх былі пешаходамі.**

Начальнік АДАІ Павел Мартыненка канстатуе, што ў апошні час пачасціліся наезды на пешаходаў, якія знаходзіліся у большасці выпадкаў ў момант ДТЗ ў стане алкагольнага ап'янення.

Першай ахвярай стаў жыхар АГ Кастрычніцкая. Пры пераходзе праезнай часткі па-за пешаходным пераходам на яго здзейсніў наезд кіроўца, кіруючы аўтамабілем «Хёндэ». Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў вясковец, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, памёр на месцы.

*(працяг на стар. 2)*

БЯСПЕКА

## БЕЗОПАСНОСТЬ ДЕТЕЙ – НАША ОБЩАЯ ЗАДАЧА!

**С рождением ребенка родители, с умилением вглядываясь в маленькое личико, ищут родные черты, спорят о том, на кого малыш похож и, конечно же, планируют его будущее – кем же он станет.**

Вот только иногда их мечтам не суждено сбыться. Родительская беспечность, халатность приводят к тому, что линия детской жизни обрывается, по сути, так и не начавшись.

С целью привлечения внимания к проблеме детской шалости с огнем и гибели детей на пожарах, снижения количества чрезвычайных ситуаций с участием детей и обеспечения их общей безопасности 16 мая в деревне Должа Витебского района прошел первый этап республиканской профилактической акции «Не оставляйте детей одних!».



В рамках районного праздника жителям была представлена выставка пожарно-технического оборудования и снаряжения. Учащиеся Должанской школы с удовольствием наблюдали развёртывание «боевой машины» спасателей, и только не очень тёплая погода удержала их от купания в струях воды, которые били из ствола пожарной машины.

Каждый желающий мог попробовать себя в роли спасателя, одев не легкое снаряжение и приняв участие в увлекательной программе «найди своё снаряжение в пожарной машине». Работники Витебского РОЧС наглядно продемонстрировали аварийно-спасательное оборудование, рассказали принцип работы аварийно-спасательной техники. Также к большому удовольствию присутствующих свои передвижные витрины с продуктами на месте показательных выступлений спасателей развернули предприятия торговли.

Кроме этого спасатели рассказывали взрослым и детям о причинах возникновения пожаров и действиях в случае возникновения огненных чрезвычайных ситуаций. А каждому взрослому из уст огнеборцев звучало: «Не оставляйте детей одних!».

Встречи профилактической акции прошли ещё во многих городах и посёлках области. В Полоцке участие в акции приняли учащиеся гимназии № 1 г.Полоцка и средней школы № 1 г. Полоцка, в городском посёлке Шумилино работники МЧС встречали детей на базе районного Дома культуры, в Лиозно прошли встречи в ГУО «Ясли-сад №3 «Солнышко» и в ГУО «СШ №2 г.п.Лиозно».

**К.Смоленский**

НОВЫЯ КНІГІ

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ АЛЯКСЕЯ ШЭІНА

**"Таямніцу Сямі Камянёў можа раскрыць толькі адзін – той, каго старажытныя летапісы называюць Дастойным. Хлопец Ясь, які апынуўся ў дзівоснай краіне Эферыі, спрабуе разгадаць схаваную ў вяках загадку крышталяў, каб выратаваць жыццё сваёй сяброўкі і вызваліць Эферыю ад прыгнёту злога самазванца."**

Так прэзетнуе выданне Аляксея Шэіна "Сем камянёў" сайт shein.by, і на віцебскім паказе гэтай кнігі аўтар падрабязна распавёў пра гісторыю стварэння кнігі, якую ролю адыгралі сыны аўтара (а іх у яго трое), цяжкасці і знаходкі, якія былі пройдзены за тры гады напісання кнігі, пра менскае выдавецтва "Пазітыўцэнтр", якое выканала шыкоўны том з яскравай вокладкай, добрай паперай і адмыслова зробленымі ілюстрацыямі да выдання мастака Сустава.

Аляксей Шэін нарадзіўся ў 1976 г. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Займаўся журналістыкай і грамадскай дзейнасцю. Вучыўся ў магістратуры Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня, Летува). Скончыў праграму навучання ў Haggai Institute (Hawaii, USA).

Арганізатар курсаў беларускай мовы "Мова веда". Як вядоўца гэтых курсаў у 2015 г. узнагароджаны прэміяй "Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці" ў намінацыі "Грамадзкі лідэр году" (Прэмія ўручаецца Асамблеяй нўрадавых дэмакратычных арганізацыяў).

Пераможца літаратурнага конкурсу "Экслібрыс" імя Аляксандра Уласава, які праводзіўся Саюзам беларускіх пісьменнікаў у 2014 годзе.

Пісменніка прадставіў Уладзімір Булаўскі ад імя кампаніі "Будзьма беларусамі", якая прадставіла прызы для забаўляльных і пазнавальных віктарынаў для удзельнікаў прэзентацыі.

Аляксей Шэін завітаў у наш горад не адзін, а з вядомым выканаўцам і музыкам гурта "Рэха" Андрусём Танкіндангам. Па чарзе з аўтарам кнігі Андрусь выконваў песні, завёў прысутных так, што яны з задавальненнем падхапілі прыпевы песень.

**Дзяніс Сенненскі**
**http://www.vitnews.org**

НА ДАРОГАХ

*(пачатак на стар. 1)*

Уласная бестурботнасць каштавала жыцця жыхару горада Віцебска. Здзяйсняючы начны шпацыр, на трасе Віцебск - Сураж паблізу павароту на вёску Асіпаўшчына мужчына раптам выйшаў на неасветлены ўчастак дарогі, дзе «сутыкнуўся» з аўтамабілем «Опель -Астра», які рухаўся ў напрамку Віцебска. Асляплены святлом фар сустрэчнага аўтамабіля, кіроўца іншамаркі на раптоўнае з'яўленне пешахода зрэагаваць не паспеў.

Павел Мартыненка ў здзіўленні, наколькі людзі не цэняць уласнае жыццё, ігнаруюць элементарныя нормы бяспекі і правілы дарожнага руху. І яшчэ раз звяртае ўвагу на тое, што ніякія штрафы не каштуюць так дорага, як чалавечае жыццё.

- Гэта першае, што даносяць ўдзельнікам дарожнага руху ў рамках шырокай прафілактычнай работы, штодзённых рэйдавых мерапрыемстваў супрацоўнікі інспекцыі, - кажа начальнік АДАІ, падкрэсліваючы, што станоўчыя вынікі дае падобная дзейнасць з непаўналетнімі. - І тут трэба адзначыць ўзаемадзеянне з Віцебскім раённым аддзелам адукацыі, спорту і турызму і з педагагічнымі калектывамі школ раёна. Сёння наўрад ці адшукаеш навучэнца, які б не засвяціўся ў цемры з дапамогай флікера.

Тэму асветленасці дарог у начны час сутак і навядзенне пешаходных дарожак у населеных пунктах і абочын дарог за межамі вёсак і аграгарадкоў начальнік АДАІ сціпла абышоў увагай, а гэта другая прычына ДТЗ са смяротным зыходам пасля алкагольнага ап'янення кіроўцаў і пешаходаў.

**К.Адамаў**

УЛАДА

# АБЛВЫКАНКАМ УЗЯЎ НА СЯБЕ ФУНКЦЫІ МЯСЦОВЫХ УЛАДАЎ

**Да такой высновы прыйшоў старшыня абласнога выканаўчага камітэта Мікалай Шарстнёў па выніках трохгадзіннай прамой тэлефоннай лініі, якая адбылася ў мінулую суботу.**

Зваротаў ад грамадзян, з надзеяй вырашыць усе праблемы адным званком да чыноўнікаў, не становіцца менш.

Толькі ў аблвыканкам кожную суботу звяртаюцца каля 30 грамадзян. У ліку «хворых» пытанні, якія тычацца прыватызацыі жылля, рамонту дарог, гандлёвага абслугоўвання, работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

- Калі глядзець вачамі насельніцтва, то карысць ад прамых ліній відавочная. З пачатку года паступіла 600 званкоў, і калі характарызаваць - у іх 80% эфектыўнасці. Сапраўды, мы здымаем такім спосабам шмат праблем, і займаемся рашэннем пытанняў, якія павінны і могуць вырашацца на месцах, але чамусьці там іх заўважаюць толькі пасля званка сверху.- канстатаваў Мікалай Шарстнёў.

На яго думку, усё яшчэ шмат зваротаў, якія спараджаюць самі чыноўнікі рознага рангу з прычыны няўмення працаваць з людзьмі. Старшыня аблвыканкама падкрэсліў, што меркаванне спецыялістаў не павінна быць дваякім. Як бы там ні было, з заяўнікамі «трэба быць адкрытымі, а не выкручвацца і карміць іх абяцаннямі, якія, ужо загадзя вядома, не будуць выкананы».

У суботу за час прамой лініі ў аблвыканкам датэлефанаваліся 25 грамадзян, з іх чатыры званка было ад жыхароў Віцебскага раёна.

Жыхар вёскі Альгова Максім Бабічаў скардзіўся на адсутнасць культуры абслугоўвання ў работнікаў мясцовай крамы спажыўкааперацыі, прыводзіў факты прысутнасці на прылаўках няякаснай прадукцыі. На гэта намеснік старшыні Віцебскага райвыканкама Віктар Дарожкін даручыў прадстаўнікам універсальнай базы без прамаруджвання выехаць на месца, разабрацца ў сітуацыі, якая склалася, правесці сустрэчу з насельніцтвам, прааналізаваць запісы ў кнізе заўваг і прапаноў і даць ацэнку прафпрыдатнасці калектыву гандлёвага аб'екта.

Астатнія тры з чатырох званкоў, якія паступілі да губернатара, ужо знаходзяцца на кантролі ў раённым выканаўчым камітэце. Кіраўнік справамі райвыканкама Жанна Ганчарова здзіўленая званком Людмілы Герасімавай з г.п. Сураж. Яе пытанне ўжо вырашаецца на мясцовым узроўні. У доме яе ўнукаў, апекуном якіх з'яўляецца 69-гадовая жанчына, ужо праводзіцца рамонт. Раённыя чыноўнікі не аднойчы выязджалі на месца.

- Трэба дэталёва разабрацца, каб задаволіць просьбу пенсіянеркі, за якой дзеці, дапамагчы ім, яны і так нямала нацярпеліся - гэта задача прыярытэтная. - Даў даручэнне старшыня аблвыканкама.

Пра аварыі, якія не спыняюцца, распавяла Тамара Рыжкова з Вымна, іх афіцыі ліквідаваць работнікі УП ЖКГ «Витрайкомхоз». Намеснік дырэктара прадпрыемства Дзяніс Цыганкоў паабяцаў не пакінуць вяскоўцаў сам-насам са сваёй праблемай. Ён заўважыў, што гэты адрас ім знаёмы, бо ў мінулым месяцы камунальнікі ўжо выязджалі ў АГ Вымна і выпраўлялі наступствы аварыі.

Параілі звяртацца ў суд у няпростай сітуацыі ў кватэрным пытанні жыхарцы в. Суйкава Таццяне Семеніда.

У завяршэнні прамой лініі Мікалай Шарстнёў адзначыў, што практыка правядзення тэлефонных ліній прымусіць больш уважліва ставіцца да праблем людзей чыноўнікаў з адміністрацый і прадпрыемстваў на месцах. У жыхароў вобласці застаецца яшчэ нямала тэмаў для размовы з уладай.

**К.Смаленскі**

КРЫМІНАЛ

# СИДЕТЬ 16 ЛЕТ ЗА УБИЙСТВО МАТЕРИ

**Жителя Витебского района осудили на 16 лет за убийство матери. Первый раз он пытался ее убить в 2000 году.**

Трагедия произошла на улице Святой в деревне Войтово Витебского района. 86-летняя женщина и ее 57-летний сын давно не жили вместе, но постоянно конфликтовали. В 2000-м он получил срок за покушение на убийство матери – ударил ее металлическим предметом по голове. Тогда старушку выходили, а он получил небольшой срок. Через три года освободился по амнистии, но отношения лучше не стали. Матери не нравилось пьянство сына, она часто говорила, что его место в тюрьме.

Подробности рассказал заместитель начальника отдела прокуратуры Витебской области Сергей Селиханов:

– Выяснять отношения сын пришел в понедельник утром. В суде утверждал, что был трезвым – недопитую бутылку вина нашел возле дров, сунул ее в рукав и, взяв топор, пошел к дому матери. Дверь была заперта, он разбил топором раму и стекло.

Старушка вышла с тростью в руках и, как могла, быстро направилась в сторону дома дочери – она живет неподалеку. Сын схватил металлический засов, догнал ее, ударил сзади по голове. Бил и когда упала. Женщина умерла через несколько минут.

Убийца проведет в местах лишения свободы 16 лет, приговор вступил в силу.

# РАСКРЫТА СЕРИЯ КРАЖ

**В 2014 году на территории Витебского района была зарегистрирована серия краж, совершенных единообразным способом: злоумышленник подыскивал дома, в которых, по его мнению, могут храниться значительные суммы денег и, убедившись, что владелец отсутствует, отжимал пластиковое окно, залезал в дом, крал вещи и вывозил их на личном автомобиле.**

Оценка изъятых с места происшествия вещественных доказательств, анализ сложившейся оперативной обстановки, очевидная схожесть в характере преступных действий, использование одинаковых орудий преступления позволили следователям выдвинуть версию о том, что преступления совершены одним и тем же лицом.

В результате был задержан подозреваемый в совершении этих краж — нигде не работающий 26-летний житель Витебска, имеющий четыре судимости за совершение имущественных преступлений и освободившийся из мест лишения свободы в августе 2014 года.

В ходе расследования уголовного дела проведены многочисленные обыски, в результате которых обнаружено похищенное имущество. При совершении преступлений злоумышленник похищал посуду, строительную и бытовую технику. Изъятые в ходе проведения следственных действий вещественные доказательства приобщены к материалам уголовного дела.

В настоящее время жителю Витебска предъявлено обвинение по ч.3 ст.205 (тайное похищение имущества, совершенное повторно, с проникновением в жилище, в крупном размере) УК.

Следствием установлена причастность обвиняемого к 12 эпизодам преступной деятельности, по каждому из которых в полном объеме собрана доказательственная база, подтверждающая факт планирования, подготовки преступления и его непосредственного совершения, сообщает официальный представитель УСК по Витебской области Инна Горбачёва.

С момента задержания обвиняемый содержится под стражей. Уголовное дело передано прокурору для направления в суд.

**К.Адамов**





ПОСТСАВЕЦКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# РЫФЫ НА РОЎНЫМ МЕСЦЫ

**Саміты Садружнасці незалежных дзяржаў (СНД) і Еўразійскага эканамічнага Саюза (ЕАЭС), якія адбыліся 8 мая актуальныя для Масквы, але прадэманстравалі быццам бы дыяметральна супрацьлеглыя тэндэнцыі ўнутры гэтых структур.**

**СНД: усё больш малалюдны клуб**

Вядома, першае з гэтых мерапрыемстваў можна лічыць важным толькі з некаторай нацяжкай, пра што наглядна сведчыць практычна поўная адсутнасць цікавасці да яго з боку вядучых расійскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Па-першае, саміт быў нефармальным, у дадатак ўдзел у ім прынялі толькі шэсць кіраўнікоў дзяржаў з адзінаццаці, якія фармальна яшчэ ў арганізацыі - Беларусі, Казахстана, Кіргізіі, Расіі, Узбекістана і Таджыкістана. А вось іх калегі з Азербайджана, Арменіі,Малдовы,Туркменістана і Украіны маскоўскі збор праігнаравалі.

Па-другое, ніякіх сур'ёзных рашэнняў там не прымалася, калі, зразумела, не лічыць дасягненні (прычым, падобна, не без цяжкасці) дамоўленасці аб правядзенні 9 кастрычніка ў Астане наступнай, ужо афіцыйнай, сустрэчы.

Па прапанове Нурсултана Назарбаева ў якасці яе асноўнай тэмы была вызначана барацьба з тэрарызмам. Справа, безумоўна, важнае, вось толькі за амаль чвэрць стагоддзя свайго існавання СНД так і не праявіла здольнасці ўвасабляць у жыццё нават самыя лепшыя намеры.

Гаворка, зразумела, ідзе не пра шматлікія сімвалічныя акцыі. Напрыклад, праграма СНД, прысвечаная 70-годдзю Перамогі, уключае ў сябе больш за 60 пунктаў - ваенныя парады, эстафета Перамогі ўздоўж знешніх межаў Садружнасці, перавыданне мемуараў, мастацкіх твораў і да т.п. З гэтым як раз усё ў парадку, праблемы пачынаюцца, калі справа даходзіць да канкрэтных стваральных дзеянняў, накіраваных на перспектыву.

Зрэшты, хай у чыста вербальным плане, але адзно больш-менш сур'ёзаеы пытанне ўсё-ткі было закранута. Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, «у цяперашні час украінскі бок дэ-факта згортвае ўдзел у дзейнасці СНД, не фінансуе агульны бюджэт, а яна другая была па колькасці напаўнення бюджэту пасля Расіі, не ўдзельнічае ў планавых мерапрыемствах, адклікала пастаяннага паўнамоцнага прадстаўніка».

І хоць пры гэтым было выказана меркаванне, што «выхаду Украіны з СНД наўрад ці варта чакаць», паколькі беларускі лідэр сам ўгаворваў яе кіраўніцтва не спяшацца, слаба верыцца, што ва ўмовах шырокамаштабнай расійскай агрэсіі Кіеў да гэтых заклікаў прыслухаецца.

Тым больш што дэ-юрэ Украіна фармальна не з'яўляецца чальцом Садружнасці, паколькі не ратыфікавала яго статут.

Наступным ўцекачом стане, хутчэй за ўсё, Малдова, якая дастаткова ўпэўнена рухаецца ў бок аб'яднанай Еўропы. Сумнеўна таксама, што надоўга затрымаецца ў Садружнасці Азербайджан.

**У ЕАЭС - папаўненне**

Наадварот, другі саміт прайшоў у значна больш аптымістычным ключы, так як, у адрозненне ад СНД, ЕАЭС працягвае пашырацца. Менавіта ў Маскве да чатырох яго членам - Арменіі, Беларусі, Казахстану і Расіі - далучыўся Кыргызстан.

Да таго ж прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў у чарговы раз нагадаў пра краіны, якія жадаюць далучыцца да ЕАЭС: «Нягледзячы на тое, што ва ўмовах крызісу ўзаемны гандаль прасядае, я лічу, што Еўразійскі эканамічны саюз мае вялікую перспектыву. Вы паглядзіце, чаму многія краіны хочуць - Кітайская Народная Рэспубліка хоча стварыць свабодную эканамічную зону [з ЕАЭС], В'етнам, сёння мы дамовіліся, што Турцыя хоча з намі быць, Індыя з намі хоча быць ».

Спіс сапраўды ўражвае. Больш за тое, гэта ўжо зусім не толькі намеры: Еўразійскай эканамічнай камісіі на саміце было даручана пачаць працу над усёабдымнай пагадненнем аб партнёрстве і супрацоўніцтве з Кітаем.

Не выключана, між іншым, што цяперашні аб'езд старшынёй КНР Сі Цзіньпінам сталіц трох вядучых еўразійцаў як раз і звязаны з тым, што намячаецца пашырэнне супрацоўніцтва.

**Будучыня еўразійскай інтэграцыі таксама пад пытаннем**

У той жа час у рамках ЕАЭС пастаянна ўзнікаюць прыкрыя пытанні. Скажам, ці змогуць ва ўмовах глыбокіх рознагалоссяў з нагоды братоў Бакіевых, у экстрадыцыі якіх Мінск адмаўляе Бішкеку, плённа ўзаемадзейнічаць Беларусь і Кыргызстан?

Ці як стасуюцца з бравурнай рыторыкай партнёраў аб дружбе ўспыхваюць раз за разам гандлёвыя войны Расеі з Беларуссю і Казахстанам?

Нарэшце, галоўнае: ці не прывядзе жаданае збліжэнне ЕАЭС (сумарны ВУП у 2014 4,2 трыльёна даляраў) з Паднябеснай (17,6 трлн.), Індыяй (7,4) і Турцыяй (1,5) да непазбежнай страты Масквой дамінуючай пазіцыі у саюзе, для чаго апошні, уласна, ёю і ствараўся? Ці пагадзіцца Крэмль гуляць у ім другарадную ролю?

Як уяўляецца, адказы на гэтыя і падобныя пытанні зусім не відавочныя, а таму ЕАЭС ў канчатковым рахунку можа напаткаць лёс СНД.

**Андрэй Фёдараў, палітолаг**




"Новы час"

ФІНАНСАВАЯ ПАЛІТЫКА

# УДЕРЖАНИЕ КУРСА РУШИТ ЭКОНОМИКУ

**Курс доллара к белорусскому рублю снизился почти до 14 тысяч. Почему это произошло и чем чревато?**

Еще 3 февраля согласно официальному курсу Нацбанка доллар стоил 15450 рублей, 12 марта – 15200, а 19 мая – уже «всего лишь» 14040.

За три с половиной месяца белорусская валюта укрепилась по отношению к американской почти на 10%. Небывалый успех! Почему это произошло и чем чревато?

Отчасти белорусский рубль тянет за собой его российский собрат. В конце прошлого года девальвация в РФ стала одной из причин «корректировки курса» в Беларуси. Но нынешней весной российская валюта приподнимается с колен, а с ней укрепляется и наша.

Но не всех это радует. Экономист Александр Обухович пишет в «Белгазете»: «Наше новое «правительство банкиров» все крутится вокруг стабилизации курса доллара. Упования почти исключительно на монетарные методы. Методика удержания курса от Ермаковой с некоторыми несущественными вариациями продолжает работать, круша и уничтожая остатки нашего экономического потенциала.

Суть методики проста, как грабли, на которые мы регулярно наступаем. Если не удается заработать достаточно долларов, чтобы удовлетворить спрос при разумном курсе, нужно сжать рублевую денежную массу настолько, чтобы не было «лишнего» спроса на доллары. Включая снижение зарплат и прочих доходов населения. Вполне по Гаутаме: если счастье в соответствии наших возможностей нашим потребностям, есть два пути к счастью. Можно повышать возможности, но можно и снижать потребности. До уровня возможностей....».

К тому же нынешнее повышение курса белорусского рубля к доллару повышает вероятность очередной девальвации в обозримом будущем. Необходимо учитывать, что, помимо не блестящих показателей нашей экономики (ВВП по итогам первого квартала снизился на 2%), свинью может подложить и Россия, чья валюта на данный момент многими считается переоцененной. Центробанк РФ уже взял курс на ослабление своего рубля. Так что, и в Беларуси существует вероятность, что доллар вскоре снова будет стоить от 15 тысяч и выше.

**Михаил Брошин**

ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС

# ЧАМУ НЕ ЧУВАЦЬ ПРАТЭСТАЎ?

**Эканамічная сытуацыя ў краіне працягвае пагаршацца. Чаму беларусы маўчаць і церпяць?**

Экспарт з пачатку году ўпаў на 30%. Паводле зьвестак Белстата, валавы ўнутраны прадукт за першыя 4 месяцы скараціўся на 2,6% у адносінах да аналягічнага пэрыяду мінулага году. Цікава, як грацыёзна падаў гэты сумны факт прэм'ер-міністар Андрэй Кабякоў на паседжаньні ўраду ў аўторак: «Адаптацыі эканомікі краіны да прынцыпова іншага зьнешняга стану спадарожнічае запаволеньне росту ВУП па выніках I квартала на 2%». То бок падзеньне ён назваў «запаволеньнем росту».

У краіне скарачаюцца рэальныя заробкі. Зарэгістраванае беспрацоўе за год вырасла ўдвая, і ў 5 разоў павялічылася колькасьць тых, хто працуе зь няпоўнай занятасьцю.

Здавалася б, такая цяжкая эканамічная сытуацыя павінна была перарастаць у сацыяльны крызіс, незадаволеньне людзей — пераходзіць у публічную плашчыню, вылівацца ў нейкія формы пратэсту, але не чутна нічога. Абсалютна. Мёртвы зыб. Чаму? На мой погляд, ёсьць некалькі прычын.

1. Няма легальных інстытутаў, структур, мэханізмаў, з дапамогай якіх працоўныя маглі б данесьці сваю занепакоенасьць, выказаць патрабаваньні да адміністрацыі. Працэс камунікацыі адбываецца толькі ў адзін бок: зьверху ўніз. Зваротнай сувязі няма. Тыя фармальныя інстытуцыі, якія, нібыта створаныя дзеля такіх мэтаў — напрыклад, прафсаюзы, калектыўная дамова і інш., — мёртвыя.

2. У грамадзтве няма адчуваньня, што крызіс усур'ёз і надоўга. Уладам удалося запэўніць людзей, што цяперашнія праблемы ў эканоміцы — справа часовая, выкліканая вонкавымі прычынамі. Хутка гэтыя вонкавыя чыньнікі зьменяцца, цэны на нафту павысяцца, Расея выйдзе з крызісу — і ўсё вернецца на ранейшы ўзровень. І гэта працуе.

3. Кантрактная сыстэма зьвязвае працаўнікоў па руках і нагах. Людзі асьцерагаюцца рабіць любыя крокі, якія выклічуць незадаволеньне начальства.

4. Большасьць найманых работнікаў працуе на дзяржаўных прадпрыемствах. І гэта важны псыхалягічны чыньнік, які засьцерагае ад праяўленьня пратэсту. Бо, па-першае, яшчэ існуе вера ў справядлівасьць «сацыяльнай» дзяржавы, якая, у адрозьненьне ад бізнэсоўцаў, дбае пра людзей, а ня толькі пра прыбытак. Па-другое, любы канфлікт з кіраўніцтвам дзяржпрадпрыемства аўтаматычна пераходзіць у канфлікт зь дзяржавай. А гэта ўжо палітыка. А за палітыку тут «садзяць».

5. За 20 гадоў пастаянных рэпрэсіяў аўтарытарнаму рэжыму ўдалося замацаваць у людзях страх. Ён сядзіць у падсьвядомасьці. Людзі элемэнтарна баяцца.

6. Моцна ўплывае досьвед украінскага Майдана. Украіна паказала, у што можа выліцца пратэст: кроў, забітыя, распад дзяржавы, эканамічны абвал, грамадзянская вайна і замежная інтэрвэнцыя. Таму лепш трохі пацерпім, затое мір і стабільнасьць.

7. Няма адчуваньня, што пратэст, выстаўленьне патрабаваньняў дадуць патрэбныя вынікі. Бо людзі бачаць, што дрэнна паўсюль, а ня толькі на іхнім прадпрыемстве ці ў арганізацыі.

8. Большасьць насельніцтва лічыць, што ў краіне няма сацыяльна-палітычнай альтэрнатывы. Народ ня бачыць грамадзка-палітычнай сілы ці палітыкаў, якія б прапанавалі зразумелы праект разьвіцьця краіны, альтэрнатыўны таму, што рэалізоўвае дзейны рэжым.

А пакуль эканамічны крызіс не перарастае ў сацыяльна-палітычны, то ўладам няма асаблівай неабходнасьці мітусіцца і нешта мяняць.

**Валер Карбалевіч**
**Радыё Свабода**

ПРАПАНОВЫ ЎЛАДАЎ

# СЯДЗІ СПАКОЙНА НА БЕРАЗЕ

**Беларускія паслядоўнікі літаратурных пікейных камізэлек жывуць надзеямі на структурныя рэформы. Нават памочнік АП прапануе грамадскую энергію накіраваць не «на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага».**

Цяпер прапаную заняцца практычнай псіхалогіяй. Я прывяду выказванні дзяржаўнага дзеяча, а чытачы папрактыкуюцца ў вызначэнне яго локуса кантролю.

*«Причины возникшей сложной ситуации в экономике очевидны: санкции против главного нашего партнера, падение цен на нефть, девальвация российского рубля, сужение российского рынка. Все это привело к естественному и резкому падению сбыта продукции на рынках наших ключевых партнеров не только в Беларуси, но и в самой России, Украине и Казахстане, на всем постсоветском пространстве».*

Нагадваю, неабходна вызначыць не аўтара выказвання. Аўтарства пытанняў не выклікае. Для тых, у каго паўсталі цяжкасці з першай цытатай, прыводжу другую: *«Кризисы когда-либо закончатся, рано или поздно, мы уже эти кризисы переживали не единожды, но когда выходишь из кризиса, и на твою продукцию есть спрос, а нет рабочего люду, нет рабочего класса, который производил эту продукцию, тогда беда».*

Спадзяюся, знаўцы кітайскай філасофіі і без маёй падказкі адчулі ўплыў Канфуцыя на нашага сучасніка. Яны маюць рацыю: «Сядзі спакойна на беразе ракі, і міма праплыве труп твайго ворага».

**Не да мадэрнізацыі**

Крызіс — гэта этап у развіцці сістэмы, калі сістэма аказваецца не ў стане адказаць на зменлівыя знешнія выклікі. Калі пагадзіцца з такім вызначэннем, то парада Канфуцыя можа апынуцца і бескарыснай.

Так, крызісы выклікаюцца знешнімі прычынамі. Яны даюць магчымасці як для развіцця, так і для дэградацыі. Выбар за палітычнай элітай. У красавіцкім пасланні адзінага палітыка (АП) тэма выбару стала цэнтральнай.

Ён пачаў з ацэнкі бягучай сітуацыі. Эканоміка — *«гарант нашей независимости»*, і сёння яна *«переживает не лучшие времена»*. Чаму? Таму што *«внешние факторы нам неподвластны»* і *«проблемы соседей немедленно становятся нашими собственными»*.

Для змены часоў (не самых лепшых на спрыяльныя) АП прапанаваў да канца года прыняць 10 важных рашэнняў, якія павінны забяспечыць новыя фактары росту. Пад уражаннем круглай лічбы расійская «Незалежная газета» на наступны дзень апублікавала артыкул пад кідкім загалоўкам «Лукашэнка адважыўся на эканамічныя рэформы».

Сапраўды, слова «рэформы» чатыры разы было згадана ў дакладзе, але як бы між іншым. Затое ўпершыню за апошнія 14 гадоў у пасланні не знайшлося месца для слова «мадэрнізацыя». Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Новыя фактары росту — гэта набор адміністрацыйных мераў, накіраваных на павышэнне, узмацненне і ўдасканаленне. Іх аб'яднала ў адзін пакет... адсутнасць патрэбы ў фінансаванні. Казна пустая. Рэальныя даходы насельніцтва падаюць. Не да мадэрнізацыі.

**Новая эканамічная ідэя**

У красавіку цудоўную нагоду для размоваў даў памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды, які апублікаваў у «Беларускім эканамічным часопісе» артыкул «Структурныя эканамічныя рэформы: неабходнасць для Рэспублікі Беларусь і замежны досвед».

Прызнаюся, раздзел, прысвечаны пагаршэнню нацыянальнай эканомікі і дэфіцыту фінансавання, зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Пераканаўчых лічбаў шмат. Абмяжуюся адным прыкладам. 2011 год у гісторыі беларускай мадэлі быў апошнім, калі прырост ВУП перавысіў сярэднесусветны. У бягучым годзе чакаецца падзенне. Апраўданасць негатыўных чаканняў пацвярджае вынік першага квартала (-2%).

Што прапануе аўтар? Аўтар прапануе рэформу структуры эканомікі. І зноў лічбы, лічбы. На гэты раз яны запазычаныя з міжнароднай статыстыкі. З іх дапамогай памочнік прэзідэнта ацэньвае структурныя эканамічныя рэформы ў 26 (!) краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і СНД. Сацыякультурныя асаблівасці краін пры гэтым ігнаруюцца.

Але ўсе лічбы паспелі стаць гісторыяй, аўтар жа заклапочаны будучыняй Беларусі. У яе прапануецца ўвайсці з дапамогай «Новай эканамічнай ідэі». Цытую: *«Для новага эканамічнага рыўка неабходныя грамадская энергія, маральна-псіхалагічная матывацыя, натхненне, нацэленае не столькі на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы. Для гэтага патрэбна зарадзіць найбольш крэатыўную частка грамадства (навукоўцаў, прадпрымальнікаў, дзяржапарат) новай вялікай ідэяй, якая б аб'ядноўвала ўвесь соцыум. Такой ідэяй можа стаць, напрыклад, «калектыўны лібералізм», які прадугледжвае не плюралізм рознанакіраваных меркаванняў і рухаў, а грамадскуюзасяроджанасцьнавырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы».*

**З «большасці» на «меншасць»**

Беларуская мадэль выбудаваная па прынцыпу ўнітарнага прадпрыемства, г.зн. прадпрыемства з адным уладальнікам (УП «Беларусь»). Імя ўладальніка ўсім добра вядомае. Таму перш чым аналізаваць прапановы чарговага рэфарматара, неабходна зразумець, што ўласна прапануецца рэфармаваць: асобныя элементы ўнутры УП або само УП. У першым выпадку рэформы не прынясуць карысці. У другім — без згоды ўладальніка УП рэформы немагчымыя.

Аўтар прапануе ажыццявіць рывок за кошт маральна-псіхалагічнай матывацыі найбольш крэатыўнай часткі грамадства (навукоўцы, прадпрымальнікі, дзяржапарат). Калі выключыць з пераліку дзяржапарат, то ў сухім астатку мы атрымаем тыповых прадстаўнікоў беларускай «меншасці».

Аднак уладальнік УП ужо два дзясяткі гадоў абапіраецца на «большасць», якая не прэтэндуе на крэатыўнасць. Ці ўсведамляе аўтар ступень радыкальнасці сваёй прапановы? Думаю, усведамляе, але не да канца. Адсюль прызнанне, што *«без палітычнай волі не будзе ні падтрымкі, ні даверу да рэформаў».*

Але палітычнай воляй у Беларусі валодае толькі адзін чалавек. У адрозненне ад свайго памочніка, ён выдатна разумее, што перанос апоры з «большасці» на «меншасць» у гістарычнай навуцы прынята называць «буржуазнай рэвалюцыяй». Але ці варта дзеля рэвалюцыі, няхай нават і буржуазнай, праяўляць палітычную волю?

**Д'ябал хаваецца ў дэталях**

Абгрунтаванасць маіх сумненняў рэгулярна пацвярджае сам уладальнік УП. Прыводжу прыклад, запазычаны з афіцыйнага прэс-рэлізу: *«Вот вы говорите, что щепу девать некуда. Давайте решим следующим заходом, что будем делать со щепой, коль рынок просел за пределами. Это мы должны сделать как можно быстрее. Начертим каждому губернатору, сколько он должен построить котлов, где он построит эти котлы, чтобы сжечь 1,5 млн. куб. м щепы».*

Нагадаю, памочнік АП прапануе грамадскую энергію накіраваць не «на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы». А чым у гэты час заняты сам АП? Ён вырашае прыватную праблему будаўніцтва катлоў. Вырашае ў звыклым для сябе стылі.

Жыццё, такім чынам, ідзе сваёй чарадой, а навукападобныя развагі па яго рэфармаванні — сваёй. І ў гэтым паралельным руху няма нічога новага і арыгінальнага.

Але не будзем адчайвацца. Крыху міжнароднай статыстыкі, якую так любіць памочнік прэзідэнта. Калі ў перыяд з 1820-х да 1950-х гадоў дэмакратычныя краіны павялічвалі падушавы ВУП у сярэднім на 2% у год, а дыктатуры — на 0,86%, то з 1950 года гэтыя паказчыкі складаюць 2,4% і 2% адпаведна.

Але д'ябал любіць хавацца ў дэталях. «Для ўсіх паспяховых дыктатур, — адзначае эканаміст Андрэй Мовчан, — агульным правілам з'яўляецца апора на брытанска-амерыканскую сістэму права, запрашэнне ва ўладу выпускнікоў брытанскіх і амерыканскіх ВНУ, стымуляванне атрымання заходняй адукацыі элітай. Можна казаць і шырэй: усе больш-менш паспяховыя дыктатуры мелісвайгородуўгатэрміновыкантракт з умоўным Захадам, які ўключаў у сябе маштабныя інвестыцыі, адкрытыя рынкі для заходніх карпарацый, двухбаковыя гандлёвыя прэферэнцыі і іншае».

Гэтым шляхам, дарэчы, спрабуе ісці Казахстан. Калі з 1994 па 2004 гады па адной толькі прэзідэнцкай праграме «Балашак» за мяжой навучыліся 785 чалавек, то, пачынаючы з 2005 года, іх колькасць перавысіла 3000.

Але ў Кірыла Рудога свой погляд на эканамічны рывок. У яго аснове ляжыць «грамадская засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы», г. зн. мабілізацыя ва ўмовах аднадумства.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

РЭХА ЧЭМПІЯНАТА

# «ПОЗОРИЩЕ – ЭТО КОГДА НАРОДУ ОБЕЩАЕШЬ ОДНО…»

**Чем хоккеисты и форумчане ответили Лукашенко за слова о «позоре за бездарный хоккей»**

Глава государства назвал позором результат белорусской сборной по хоккею в четвертьфинальном матче с Канадой на чемпионате мира, который закончился проигрышем со счетом 9:0.

– Позорище. Что мы только для них ни делали. Выйти и продемонстрировать такой бездарный хоккей – это позор: 7:0 (в игре с российской командой на групповом этапе), 9:0, – сказал Александр Лукашенко. – Мы пробились в плей-офф... Ну сколько можно об этом говорить. Пробились – так надо выигрывать! Канадцы – мощнейшая команда, трудно у нее кому-то выиграть. Но не 9:0!

Вскоре последовала реакция хоккеистов, отмечает sport.tut.by.

**Евгений Ковыршин:** «Критика со стороны президента? Я еще не слышал. Но лично меня это не огорчает».

**Алексей Калюжный:** «Лукашенко назвал поражения позором? Ну, это, кто как смотрит».

Напомним, по итогам чемпионата мира сборная Беларуси заняла седьмое место. На групповом этапе наши хоккеисты набрали рекордные для себя 14 очков. Среди поверженных оказались команды США (5:2), Словении (4:2), Дании (5:1) и Норвегии (3:2).

Отметим, что для многих болельщиков в целом результат сборной Беларуси, которая вошла в восьмерку сильнейших на чемпионате мира, стал приятным удивлением. А на оценку «позорище» от президента последовала бурная реакция на форумах. Приводим избранное.

**Форум talks.by**

«Канадская сборная, конечно, мощная команда. И играют они достаточно жестко. Конечно, было обидно за наших ребят. Хотя, признаюсь, тут я вервые не совсем согласен с президентом: наша сборная старалась, и матч был действительно тяжелый и сложный. И им самим горько от этого поражения. Это же было видно!».

«Судя по отзывам по этой теме на других сайтах и на этом – мнения подавляющего большинства людей и президента СОВЕРШЕННО не совпадают! И я не согласен. Сборная сыграла хорошо на чемпионате. Спасибо ребятам и тренеру!».

«Парни второй раз подряд вышли в плей-офф! Выиграли сборную США, отлично сыграли с финнами! В кои-то веки я действительно видел команду! А главному критикану я бы посоветовал стать тренером нашей сборной, вот там и посмотрим, что у него получится! Впрочем, все мы знаем, что у него всегда получается! Прекрасно ощущаем на себе действия этого великого хоккеиста!».

«Я заметил что мнение президента не всегда (а вообще всегда) не совпадает с мнением народа. В последнее время очень часто».

«Позорище – это когда целому народу на выборах обещаешь одно, а потом за пять лет ничего из обещанного не выполняешь».

**Форум by.tribuna.com**

«Только бы парни не обиделись на это и продолжали приезжать в сборную и впредь. Не для него ведь играют, а для всех белорусов».

«Позорище – это когда страна с таким колоссальным человеческим ресурсом постепенно превращается в однородную серую массу. Вот это беда... А пока есть такие хоккейные команды, как на этом чемпионате сборная Беларуси, убеждаешься, что ещё не всё потеряно».

«Уж что-что, а облить помоями он умеет. Хорошо, что не живем в Северной Корее, а то расстрелял бы всех из зенитного орудия».

**Форум pressball.by**

«Перепутал чемпионат мира с рождественским турниром...».

«Тут один «профи» набрал кредитов на 30 миллиардов долларов... Мы же ему не предъявляем, что должны жить как в Швейцарии».

...Кроме того, на сайте «Прессбола» продолжается опрос: «Хоккей. Оценка выступления сборной Беларуси на чемпионате мира-2015?». По данным на полдень субботы в голосовании приняли участие почти 3 тысячи человек. 67,6 % оценили результат сборной на «хорошо», 19,3% – на «отлично».

Эти цифры красноречиво демонстрируют, что в данном вопросе мнения белорусов и Лукашенко кардинально расходятся.

**Лера Василькова**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.05.2015 у 16.15
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.